

# Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ —
БЕЦЕ МЯЧАМІ!
НЕ ДАВАЙЦЕ
ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

*Максім Багдановіч*
*(1891-1991)*

№ 383 Кастрычнік 1991
Год выд. XL

BIELARUS / BELARUSAN Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.50

## НА ШЛЯХУ ДА ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ

Ад часу, калі ў 1902 годзе была заснаваная першая беларуская палітычная партыя, Беларуская Сацыялістычная Грамада, да часу, калі быў скліканы Ўсебеларускі Кангрэс у 1917 годзе, а за тры месяцы, 25-га сакавіка 1918 году, была абвешчаная беларуская дзяржаўнасьць у форме Беларускай Народнай Рэспублікі, прайшло ўсяго 15 гадоў. Але гэты пэрыяд быў часам вельмі інтэнсыўнай нацыянальнай дзейнасьці: бязьмерна шмат зрабіла газэта «Наша Ніва», былі запачаткаваныя беларускае школьніцтва, ведавецкая дзейнасьць ды галоўнае, шырокай хваляй ішло ўсьведамленьне масаў і рыхтаваньне нацыянальных кадраў.

Першая сусьветная вайна зьмяніла дзяржаўныя сыстэмы й палітычную геаграфію Эўропы. І хоць Беларусь была па-барбарску падзеленая, умовы для беларускае нацыянальнае працы выявіліся спрыяльныя, але, праўда, на працу толькі двaццатых гадоў. Як у Заходняй, гэтак і ва Ўсходняй Беларусі, беларускі нацыянальны рух прагрэсаваў — пачынала разьвівацца нацыянальная эканоміка, адбывалася беларусізацыя адміністрацыйнага апарату, разбудоўвалася беларускае школьніцтва, культурна-асьветніцкая дзейнасьць. Інакш кажучы, у дзесяцігодзьдзі 20-х гадоў закладаліся падмуркі нацыянальнае дзяржаўнасьці з выдатнымі вынікамі.

Аднак, беларускае нацыянальнае разьвіцьцё было гвалтоўна спыненае ў канцы 20-х пачатку 30-х гадоў. На Беларусі наступіла пара нацыянальнага і фізычнага вынішчэньня народу — раскулачаньні, вывазы, разгром нацыянальных кадраў, фальшаваньне гісторыі, бязьлітасная русыфікацыя. Падобнае тварылася і ў Заходняй Беларусі пад Польшчай. Асноўны націск у савецкай «імпэрыі зла» быў пакладзены на зьнішчэньне нацыянальнай Беларусі, каб зрабіць зь яе рэспубліку беларускай толькі па форме і прарасейскай па зьместу. У справе зьнішчэньня беларускасьці савецкая ўлада зрабіла нямала!

Але, як звычайна бывае ў гістарычным працэсе, палітычныя ўмовы мяняюцца. Зьмяніліся яны ў 1985 годзе ў імпэрскім цэнтры ў Маскве. Пачаліся перамены й на пэрэфэрыі. Няма слоў, скарысталі з гэтага й беларусы — стала магчымым узьняць трывогу аб стане нацыянальнай мовы ў рэспубліцы ды прыняць адпаведнае заканадаўства, каб уратаваць яшчэ, што можна. Можна было сказаць і аб народагубнай палітыцы савецкай улады на Беларусі, можна было пачаць улік злачынстваў савецкае ўлады й камуністычнае партыі. Надзвычай важным было, што нацыянальны рух здолеў стварыць апазыцыю ў Вярхоўным Савеце БССР, заснаваць палітычныя партыі ды, нарэшце, дамагчыся абвешчаньня сувэрэнітэту і незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. Гэтымі дзеяньнямі, між іншага, дасягнулася значная прапаганда Беларусі на Захадзе — вельмі пазытыўная зьява.

Аднак, трэба быць аб'ектыўным. Добра ведама, што ў вялікай меры ў галіне нацыянальнага адраджэньня зьмены адбыліся толькі на паперы: тармозіцца беларускае школьніцтва, зьмяншаюцца тыражы беларускамоўных выданьняў, а ўзростае расейскамоўны друк, ды й з мовай, ня гледзячы на ейны дзяржаўны статус справа не зайздросная. Інакш кажучы, парафразуючы знаны выраз — «на нашым фроньце амаль бязь зьменаў».

Паўстае лягічнае пытаньне: чаму ў іншыя спрыяльныя для нацыянальнага руху часы, беларусы прагрэсавалі значна хутчэй, здабываючы новыя вышыні для дзяржаўнага нацыянальнага будаўніцтва, а ў цяперашнім часе прагрэс амаль незаўважны. Адказ на гэтае пытаньне, на наш пагляд, гэткі: у мінулым, у спрыяльныя часы, у нацыянальных адраджэнцаў быў адзін вораг — чужак, не-беларус. Сяньня-ж тармозяць нацыянальнае адраджэньне ды нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва ня толькі чужакі, але й нагадаваныя імі янычары, біялягічныя беларусы, але з выпусташаным нацыянальным нутром. І хоць у цяперашнім часе цэнтр, Масква, як выглядае, і адварочваецца ад іх, але яны ўсё-ж цягнуцца да гэнага цэнтру.

Дзеля гэтага хоць і абвешчаная сёньня незалежнасьць Беларусі, шлях да **сапраўднае** Беларускае дзяржаўнасьці й незалежнасьці яшчэ даўгі й ня лёгкі.

## СПАТКАНЬНЕ З ПРЭЗЫДЭНТАМ БУШАМ



*Прэзыдэнт Буш і др. Язэп Сажыч.*

У часе сьвяткаваньня Тыдня Паняволеных Народаў у Мічыгане, Др. Язэп Сажыч меў аказію й вялікую прыемнасьць спаткацца асабіста і паціснуць руку Прэзыдэнту Бушу.

Пры гэтай нагодзе др. Сажыч прасіў Прэзыдэнта Буша, каб наведаў Менск, сталіцу Беларусі, калі будзе мець спатканьне з Прэз. Гарбачовым у Маскве. Прэз. Буш вельмі прыхільна й энтузыястычна зарэагаваў на гэта, кажучы: «Гэта вельмі добрая й цікавая прапанова й я буду памятаць аб гэтым».

Нажаль апошняя візыта Прэз. Буша ў СССР была кароткая й час не пазваляў яму споўніць сваё абяцаньне. Наведаў толькі Кіеў, апрача Масквы. Будзем спадзявацца, што пры наступнай аказіі Прэзыдэнт Буш наведае Менск, дзе яго прывітаюць сапраўдныя гаспадары гэтага горада.

Яго Міласьці Спадару Зянону Пазьняку
Старшыні Сойму Беларускага Народнага Фронту,
Менск, Рэспубліка Беларусь,

Высокапаважаны Спадар Пазьняк:

Ад імя Управы й сяброў-арганізацыяў Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады я маю гонар і шчасьце вітаць Вас, Парлямэнт Беларускай Рэспублікі й ўвесь Беларускі Народ зь гістарычнай падзеяй — сяньняшнімі, 19-га верасьня, 1991 году, пастановамі Беларускага Парлямэнту:

1. аб зьмене назову Рэспублікі зь Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі на **Рэспубліку Беларусь;**
2. аб прыняцьці **бел-чырвона-белага сьцягу** як афіцыйнага сьцягу Рэспублікі Беларусь;
3. аб прыняцьці **Пагоні,** як афіцыйнага гэрбу Рэспублікі Беларусь;

Вітаем, гратулюем, і разам з Вамі цешымся й жадаем Вам, усім змагаром за волю Беларусі й ўсяму Беларускаму Народу вытрываласьці й посьпехаў у пераадольваньні парашкодаў і цяжкасьцяў у разбудове незалежнай Беларусі.

19 верасьня, 1991 году.

ЖЫВЕ РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ!
ЖЫВЕ БЕЛАРУСКІ НАРОД У ЗМАГАНЬНІ!

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**
**Старшыня**

## ЗАКОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
## АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ СЬЦЯГУ Й ДЗЯРЖАЎНЫМ ГЭРБЕ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе: Дзяржаўны сьцяг Рэспублікі Беларусь уяўляе сабой палотнішча, якое складаецца з трох гарызантальна разьмешчаных каляровых палос роўнай шырыні: верхняй і ніжняй белага, а сярэдняй — чырвонага колеру. Адносіны шырыні сьцяга да яго даўжыні — 1:2.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе: Дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь зьяўляецца старажытны беларускі гэрб «Пагоня», які ўяўляе сабой выяву разьмешчанага на чырвоным фоне конніка белага колеру, сьціраванага ў левы бок, з узьнятым мячом і шчытом з крыжам.

Менск, 19 верасьня 1991 г.

## БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЬЦЯГ ДЛЯ ААН

Вестку аб абвешчаньні Вярхоўным Саветам БССР 25-га жніўня сёлета незалежнасьці Беларусі, беларусы ў Злучаных Штатах прынялі прыхільна, як важны крок на шляху да сапраўднай незалежнасьці.

Аднэй з прыгажэйшых урачыстасьцяў, якая адбылася ў Нью-Ёрку, зь ініцыятывы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, была прысьвечаная прэзэнтацыі бел-чырвона-белага сьцягу Беларускаму прадстаўніцтву пры Арганізацыі Аб'едналых нацыяў.

У сераду 2-га кастрычніка ў будынку Галоўнай Кватэры прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь пры ААН прыняў дэлегацыю Беларуска-Амэрыканскае моладзі амбасадар сп. Генадзь Бураўкін.

Ва ўрачыстасьці прынялі ўдзел Міністар замежных спраў Беларусі сп. Пётра Краўчанка, які знаходзіўся ў Нью-Ёрку ў сувязі з Гэнэральнай Асамблеяй ААН, а таксама старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антон Шукелайць.

Др. Юры Кіпель, старшыня Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі пасьля кароткай прамовы, перадаў сп. Г. Бураўкіну бел-чырвона-белы сьцяг. Сп. Бураўкін пацалаваўшы сьцяг, гаварыў аб значэньні сьцягу для народу. З нагоды урачыстасьці прамаўляў таксама сп. П. Краўчанка й сп. А. Шукелойць.

Пасьля афіцыйнай цырымоніі адбылося прыняцьцё, у часе якога удзельнікі абмяняліся думкамі аб гістарычнай важнасьці падзеяў, якія адбываюцца ва Ўсходняй Эўропе.

# ПАДАРУНАК БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ АРГАНІЗАЦЫІ АБ'ЕДНАНЫХ НАЦЫЯЎ



*Габэлен «Чарнобыль» мастака А. Кішчанкі (фрагмэнт)*

19-га верасьня сёлета ў аднэй з канфэрэнц-залаў ААН адбылася цырымонія ўручэньня падарунку беларускага народу Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў габэлену «Чарнобыль». Дарэчы тут зазначыць, што гэтым самым днём ня стала занадта абцяжарнага афіцыйнага назову рэспублікі. Замiж ранейшага назову Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Вярхоўны Савет прыняў пастанову-рэспубліку ад сяньня называць проста «Рэспубліка Беларусь».

На цырымоніі прысутнічаў аўтар габэлену беларускі мастак Аляксандар Кішчанка, заступнік прэм'ер міністра Беларусі Іван Кенік, галоўны сакратар ААН Пэрэс дэ Куэяр, галава беларускай місіі пры ААН Генадзь Бураўкін ды афіцыйныя асобы з Украінскае і Расейскае місіяў пры ААН, а таксама журналістыя амэрыканскіх сродкаў інфармацыі ды госьці запрашаныя на гэтую ўрачыстасьць, у тым ліку й прадстаўнікі амэрыканскіх беларусаў.

У запрашальным лісьце, які разаслала беларуская місія пры ААН было напісана, што ўрачыстасьць ладзіцца ад імя Пятра Краўчанкі, міністра замежных спраў Беларусі, але Краўчанкі на цырымоніі ня было. Афіцыйнае слова ад імя беларускай дэлегацыі, што прыбыла сёлета на сэсію Галоўнай Асамблеі ААН меў слова Іван Кенік. На першых словах прамовы Кеніка шырма, што завешвала габэлен мастака Кішчанкі «Чарнобыль» разгарнулася і было адчыненае вялізарнае палатно-пано, у якім, як сказаў пасьля ў сваім слова сам мастак, зьмясьцілася душа стваральнікаў габэлену і боль усяе шматпакутнае беларускае нацыі. Задума ягоная простая — можна сказаць біблійная — мастак ня йшоў паводля дакладных гістарычных датаў. Габэлен «Чарнобыль», які будзе ад сяньня ўпрыгожваць адну з вялікіх заляў для канфэрэнцыяў ў будынку ААН, увасабляе мінулае й будучае беларускай нацыі: мінуўшчына багатая падзеямі, надзеямі й плянамі, а з другога боку, што чакае нацыю ў будучыні, калі яна ня стрымае безглядную ўжываньня атамнай энэргіі. Мірны атам, заплянаваны, прыносіць карысьць людзям, у Чарнобылі абярнуўся ў найбольшае зло для людзей пры няўмелым ім карыстаньні.

Нажаль мастак Кішчанка, як і заступнік старшыні міністраў Кенік, прамаўлялі да прысутных па-расейску, чым цімала зьбянтэжылі амэрыканцаў беларускага паходжаньня, што прыйшлі на ўрачыстасьць. Ці-ж не паказьнік гэта таго, як партыйная намэнклятура ў рэспубліцы ставіцца і да дзяржаўнасьці нацыянальнае мовы ды да ўсяго культурна-нацыянальнага адраджэньня наагул, калі за блізу два гады па прыняцьці закону аб дзяржаўнасьці беларускай мовы ня хоча ўжываць гэтую мову на міжнароднай арэне?

Галоўны Сакратар ААН Пэрэс дэ Куэяр, пачнаючы прамову падкрэсьліў, што Беларусь ёсьць аднэй з нацыяў-стваральнікаў Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, падзякаваў беларускаму народу ў асобе прадстаўнікоў беларускай місіі ў ААН за падарунак ды выказаў надзею, што сям'я Аб'еднаных Нацыяў, сакратарам якое ён зьяўляецца, не застанецца ўбаку ад гора, што напаткала Беларусь ў выніку катастрофы ў Чарнобылі.

**Алесь Васілеўскі**

# МЕНСКІХ ЗУБРОЎ ТРЭНІРУЕ АМЭРЫКАНСКІ ТРЭНЕР

Газэта The Detroit News, Detroit Aug. 15, 1991, падала цікавую вестку, рэпартаж аб спартовай камандзе амэрыканскага футболу "The Minsk Buffaloes" (Менскія Зубры). Гэтая каманда заснаваная ў Менску зусім нядаўна і мала вядомыя ў спартовых змаганьнях. Дарэчы тут зазначыць што, летась каманда «Менскія Зубры» праіграла маскоўскай футбольнай камандзе разьлікам 99 да нуля. (Маскоўская каманда амэрыканскага футболу існуе ўжо колькі гадоў ды яе штаголу перамагаюць амэрыканскія каманды). Але цяпер на гарызонце для «Менскіх Зуброў» могуць быць сьвятлейшыя часы. Сёлета «Менскія Зубры» набылі амэрыканскага трэнера Монта Кляркa, добра знанага ў Амэрыцы. Апрача амэрыканскага трэнера, часткавымі ўласьнікамі «Менскіх Зуброў» становяцца амэрыканцы, найперш знаны амэрыканскі спартовы прадпрыёмца Морт Крым, фінансіст Біл Кудліп, бізнесовая фірма «Янг Рубікам», колькі іншых прыватных асобаў ды адвакацкая карпарацыя. Амэрыканскія прадпрыймальнікі ўвайшлі ў сугалку зь менскімі арганізатарамі у новаўтвораную кампанію пад назовам "CAP-COM Ventures, Inc.", што, ў расшыфраваным выглядзе, азначае «Капіталістычна-Камуністычнае Прадпрыёмства».

Ад беларусаў-амэрыканцаў дадамо: спадзяемся, што некалі нам пашчасьціць бачыць «Менскіх Зуброў» у Амэрыцы!

# З жыцьця Беларусаў Заходняй Аўстраліі

40-ая справаздачна-выбарчая зборка Беларускага Аб'яднаньня Заходняй Аўстраліі адбылася 18-га жніўня ў Беларускім Народым Доме.

Адчыніў нарады старшыня уступаючай управы Міхась Раецкі малодшы, а нарады вёў сп. Алекс Мароз. Справаздачу зь дзейнасьці ўправы зрабіў старшыня, з касавага стану — скарбнік А. Мароз, ды з працы Беларускага радыё ў Пэрт З.А. — М. Раецкі старэйшы.

З дыскусыяў над справаздачамі выявілася, што сябры ўправы Б.А. і радыё зрабілі надзвычайную працу ня толькі унутры арганізацыі, але і на вонкі яе. Вонкавая праца выявілася у прыйманьні ўдзелу ў шэрагу дэманстрацыяў і канфэрэнцыяў.

Пасьля справаздачаў адбыліся выбары управы Б.П. у З.А. на кадэнцыю 91/92 год. На становішча старшыні ізноў быў аднагалосна абраны Міхась Раецкі малодшы, намесьнікам — Міхась Ёлаб, сакратары: Алекс Мароз і Марылька Ёлаб ды скарбнікам А. Мароз малодшы. Рэпрэзэнтацыя навонкі — М. Раецкі старэйшы. У Беларускі Радыёвы Камітэт былі выбраныя: М. Раецкі, М. Ёлаб і Міхась Раецкі малодшы. Прадстаўніком газэты «Беларус» — сп-ня М. Мароз.

Усьлед адбыўся пачастунак у часе якога абгаворвалася праца на новую кадэнцыю, ды прысутныя мелі нагоду абмяняцца апошнімі навінамі з Бацькаўшчыны.

**Прысутны на выбарах Р.М.**

## ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ

Прашу зьмясьціць на старонках газэты «Беларус» прозьвішчы наступных ахвярадаўцаў на Беларускае Радыё ў Пэрт, З. П.:

Мікола Скабей — 50 аўстр. даляраў

Аляксандар Лашук — 41.80 аўстр. даляраў.

Міхась Раецкі

## ЭКАНАМІЧНАЕ ЗНАЧЭНЬНЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Як паведамлялася ў англамоўным друку — газэты Вол Стрыт Джорнал, Нью Ёрк Таймс, Вошынгтон Пост ды іншыя — значэньне шасьцёх заходніх рэспублікаў: Балтыцкія рэспублікі, Беларусь, Украіна і Малдова, вельмі вялікае, як з глездзішча геаграфічнага палажэньня, гэтак і экономікі. Вось прыкладам, што дае Беларусь у эканоміку СССР (паводля дадзеных «Дэтройт Ньюс»)

- 28.9% хэмічных валокнаў
- 23% абсталяваньня для жывёлагадоўлі
- 21.5% матацыклетаў
- 18.3% мінеральных угнаеньняў
- 13.5% электрычных матораў
- 11.1% халадзільнікаў
- 11.1% тэлевізараў

## БЕЛАРУСКІЯ СПАРТОЎЦЫ

На сусьветных гімнастычных спаборніцтвах у Індыянапалісе ў штаце Індыяна, якія адбываліся ў ліпені сёлета, беларускі спартовец, 18-ці годовы Віталі Шчэрба, ўзяў срэбны мэдаль, набраўшы 58.95 пунктаў з магчымых 60-х. Шчэрба, як пісалі амэрыканскія газэты, паходзіць з Беларусі, рэспублікі, якая абвесьціла сваю незалежнасьць.

Віталі Шчэрба здабыў тры залатыя мэдалі ў 1990 ў эўрапэйскіх атлетычных змаганьнях ды гэтаксама пяць мэдаляў у гульнях Добрае Волі.

*Vera Rich*

## PROLOGUE*

Be swift, my friends, be swift,
When storm-clouds thin and sun-fire floods the rift,
When the first green pierces the winter drift...
Eager to sieze the future's slightest gift,
Be swift!

Be slow, my friends, be slow,
Be not impetuous at letting go
The good hard-forged through the long years of woe...
To voyage uncharted upon history's flow,
Be slow!

Be kind, my friends, be kind,
Gentle to bruised soul and bewildered mind,
To ears for decades deaf, to eyes long-blind,
Let the old enmities be left behind,
Be kind!

Beware, my friends, beware,
When would-be allies come to speak you fair,
Sift word and deed as ever with due care,
A late frost often blasts the April air,
Beware!

Be free, my friends, be free
Open to all men's minds in charity,
Not only on the day of jubilee,
When all is hope, joy and new liberty,
But when work-weariness brings apathy,
Boredom, despair, and petty rivalry...
*"And all things shall be added unto ye!"*
Be free!

* *Верш прысьвечаны новым дэмакратыям былога Савецкага Саюзу.*

## КРОК ДА БЕЛАРУСКА-БЭЛЬГІЙСКАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Пад загалоўкам «Спатканьне беларускіх гасьцей са справамі» бэльгіская газэта «Ле Суар» (12.IX.91) падала пра наведаньне 15-асабовай дэлегацыяй з Салігорску бэльгіскага гораду-пабрацiма Ля-Люв'ер. Візыт гасьцей супаў з адкрыцьцём у Ля-Люв'еры гандлёвага кірмаша. Наведнікі пабылі на баскетбольным матчы, азнаёміліся са штадзённым жыцьцём Бэльгійцаў, а таксама выкарысталі нагоду для наладжаньня дзелавых кантактаў з бэльгійскімі фірмамі. Дырэктар салігорскае хвабрыкі пашыву дзіцячае вопраткі (1500 працаўнікоў) зьвярнуўся да бэльгійскага прамыслоўца з гор. Бэншу сп. Амбруза Гамэйда з прапановай стварыць супольнае прадпрыемства пашыву вопраткі. Паводля падпісанага пагадненьня, салігорцы будуць шыць вопратку згодна з дасыланымі ім мадэлямі з матар'ялаў, якія будуць завозіцца або з Савецкага Саюзу або з Бэльгіі.

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў АМЭРЫКАНСКАЙ ШКОЛЕ

Амэрыканская пачатковая школа ў Ньютон, Нью-Джэрзі запрасіла Людмілу Русак Грант вучыць дзяцей 3-яй і 4-ай клясаў беларускую мову. Мэта гэтай спэцыяльнай праграмы ёсьць азнаямленьне дзяцей з іншымі замежнымі мовамі акрамя ангельскай. Люда Грант кажа, што дзеці вельмі зацікаўленыя прадметам і пераважна вельмі добра вымаўляюць беларускія словы. Вучні таксама задаюць шмат пытаньняў пра беларускія звычаі, і настаўніца расказвае ім пра розныя беларускія сьвяты і гульні. На першай лекцыі яна са сваім сынам Адамам гутарылі па-беларуску, каб дзеці маглі пачуць гук і плаўнасьць беларускае мовы.

# 24-Ы КАНГРЭС БАЗА




*У часе 24-га Кангрэсу БАЗА. Фота. А. Дубягі*

24-ы Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня адбыўся ў днях 14-15 лістапада сёлета ў адноўленай парахфіяльнай залі Жыровіцкае Маці Божае ў Гайлянд Парку, Нью-Джэрзі.

А першай гадзіне па-паўдні заля была запоўненая дэлегатамі й гасьцьмі са штатаў Нью-Джэрзі, Нью-Ёрку, Огаё, Канэктыкут, Мічыган, Каліфорнія. Былі таксама прысутныя госьці зь Беларусі ў асобах Уладзімера Новіка, народнага дэпутата Беларусі, які зьяўляецца сакратаром Камісіі па прамысловасьці, энэргіі, транспарту, сувязі й інфармацыі, а таксама Анатоля Гурыновіча, віцэ-мэра гораду Менску.

Кангрэс адчыніў старшыня БАЗА Антон Шукелойць. Хвілінай маўчаньня прысутныя ўшанавалі памяць памерлых сяброў БАЗА. Айцец Васіль, настаяцель царквы Жыровіцкае Божае Маці, памаліўся за плённую працу Кангрэсу ды ўсе прысутныя адсьпявалі малітву «Магутны Божа».

У мандатную камісію былі выбраныя Ф. Бартуль і Л. Шурак. На старшыню кангрэсу быў выбраны Др. Янка Запруднік, а на сакратароў Сьвятлана Белая й Васіль Русак. У рэзалюцыйную камісію былі абраныя Я. Запруднік, В. Русак і Я. Арцюх.

Сп. Шукелойць у грунтоўным дакладзе зрабіў агляд працы Управы БАЗА за апошнія два гады, прааналізаваў штодзённыя й балючыя праблемы Беларускай эміграцыі ў ЗША, а таксама дынамічныя падзеі на Беларусі і гэтым задаў належны тон для кангрэсу.

Справаздачы паасобных аддзелаў былі зробленыя старшынямі: ад Нью-Ёрку — сп. А. Міцкевіч, ад Нью-Джэрзі — Я. Азарка, ад Кліўленду — Я. Ханека, ад Каліфорніі Я. Арцюх.

На Кангрэсе абмяркоўваліся й дыскутаваліся шматлікія пытаньні й праблемы нашай эміграцыі а гэтаксама будучыні нашай бацькаўшчыны Беларусі.

Кангрэс прызнаў старшыні Управы сп. Шукелойцю і ягонай управе абсалютторыюм, і праз аклямацыю перавыбраў на наступныя два гады усю управу ў складзе: А. Шукелойць — старшыня, заступнікі старшыні Ю. Азарка і Ф. Бартуль, сябры — др. Юрка Кіпель, др. Алла Орса-Рамано, Вера Запруднік, Раіса Станкевіч, В. Русак, А. Міцкевіч і В. Тур.

У рэвізыйную камісію былі абраныя В. Кажан, Л. Шурак і Ф. Бартуль.

Кангрэс закончыўся адсьпяваньнем Беларускага нацыянальнага гімну.

**Л. Шурак**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

24-га кангрэсу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, праведзенага ў гор. Гайленд-Парку ў штаце Нью-Джэрзі 14 верасьня 1991 г.

Мы, удзельнікі 24-га кангрэсу БАЗА, выказваем:

1. Падтрыманьне ідэі незалежнай Беларусі, у якой выбарчы закон будзе дэмакратычны, а ўлада будзе належаць не намэнклятуршчыкам, носьбітам абанкрочаных догмаў таталітарызму, а запраўдным прадстаўнікам народу.
2. Жаданьне дапамагчы беларускаму народу ў ягоным змаганьні за выхад з эканамічнага крызісу і культурнага заняпаду, у ягоных намаганьнях залячыць чарнобыльскую рану, наладзіць эканамічныя сувязі з заходнім сьветам, адрадзіць нацыянальную культуру ды ўмацаваць маральнае здароўе.
3. Пастанову дамагацца ад ураду ЗША, каб ён адчыніў у як мага хутчэйшым часе амэрыкаскае пасольства ў Менску.
4. Наважанасьць шукаць далейшых кантактаў з урадавымі дзейнікамі Злучаных Штатаў і дзелавымі коламі, якія маглі-б паспрыяць незалежнай дэмакратычнай Беларусі адбудаваць эканоміку і культуру, наладзіць шырокае міжнароднае супрацоўніцтва ўва ўсіх галінах жыцьця.
5. Гатовасьць спрыяць прыезду ў Амэрыку спэцыялістаў зь Беларусі, у тым ліку студэнтаў, для азнаямленьня з амэрыканскім палітычным ладам, культурай і навукова-тэхнічнымі дасягненьнямі, а таксама для азнаямленьня Амэрыканцаў зь беларускай культурай ды праблемамі адбудовы беларускай дэмакратыі і эканомікі.

Жыве незалежная і дэмакратычная Беларусь!
Жыве амэрыканска-беларускае супрацоўніцтва!

Гайленд-Парк, Н.-Дж., 14.IX.1991 г.

**Старшыня Прэзыдыюму кангрэсу: Янка Запруднік**

# 13-Ы ГАДАВЫ ФЭСТЫВАЛЬ У ПАРКУ СВАБОДЫ



*Губэрнатар штату Нью-Джэрзі Джым Флёрыё зь беларускай моладзьдзю.*

У горадзе Джэрзі Сіты, штат Нью-Джэрзі, у парку Свабоды 21-22 верасьня адбываўся чародны гадавы фэстываль Этнічнае Спадчыны штату Нью Джэрзі. Як ведама ў штаце Нью Джэрзі штагоду адбываецца каля дзесятка розных фэстываляў, але «афіцыйны» фэстываль, які ладзіць Дарадчая Этнічная Рада Штату (ад беларусаў у раду ўваходзіць сп-ня Ірэна Дутко-Рагалевіч) бывае адзін у «Лібэрты Парк» усяго ў 50-х мэтрах ад статуі Свабоды.

Беларуская група была аднэй з самых актыўных у арганізацыі гэтых фэстываляў і ў часе кажнага фэстывалю беларусы вельмі ўдала рэпрэзэнтавалі беларускую спадчыну і культуру.

Беларускім мастацкім стэндам кіравалі: Надзя Кудасава, Галіна Русак, Тамара Стагановіч і Ірэна Дутко.

У сёлетнім фэстывалі бралі ўдзел Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі — Юрка Кіпель, Павел Рамана, Вера Запруднік, Нік Бахар, а ім вельмі добра дапамгалі Таіса і Эля Андрэюк ды Зора Кіпель.

Буфэт моладзі быў вельмі пасьпяховы — прыемная вясёлая абслуга, смачная беларуская ёжа. Да гэтага прычыніліся й наступныя асобы: Бяся Кучынская, Алеся Кіпель, Матушка Андрэюк, Надзя Кудасава, Марыя Верабей ды Лорэйн Кіпель.

Губэрнатар штату Нью-Джерзі Джым Флорыё наведаў абодвы беларускія стэнды, вельмі прыемна правёў колькі хвілінаў зь беларусамі і атрымаў ад моладзі ў падарунак беларускую кашульку й шапку.

***Анатоль Гурыновіч***

# СТАН АДУКАЦЫІ НА БЕЛАРУСІ

## (некалькі заўвагаў)

Аб выкананьні прынятага ў БССР закону «Аб мовах Беларускай ССР» нямала пішацца на старонках беларускага друку. Гэта й зразумела, бо закон ня выконваецца поўнасьцю, хоць зрухі й назіраюцца. Пры ўсім маім нэгатыўным стаўленьні да беларускамоўных клясаў у рускіх школах, як да сваеасаблівых «рэзэрвацыяў», нейкі ўплыў на беларусізацыю яны робяць. Трэба адзначыць, што колькасьць гэткіх клясаў апошнімі часамі павялічылася даволі значна. Калі ў 1989/90-ым навучальным годзе беларускіх клясаў у рускіх школах было 143, дык ужо ў 1990/91 годзе гэткія клясы налічалі каля 17-х тысячаў вучняў. Але гэтыя лічбы не даюць падставаў уважаць, што сытуацыя ў адукацыі беларускіх дзяцей зьмянілася карэнным чынам.

У 1990/91 навучальным годзе у беларускай мове навучалася толькі 28,9 працэнтаў першаклясьнікаў. У дзіцячых садкох летась выхоўваліся ў беларускай культуры толькі 20,2 працэнты дзяцей. І нават гэтыя лічбы не даюць поўнага абразу. Справа ў тым, што паранейшаму, у часе навучаньня парушаецца адзіны моўны і арфаграфічны рэжым, скрозь можна сустрэць выкладаньне на расейскай мове ў беларускіх клясах. Нават у загадзе нр. 183 ад 25.7.1991 па Міністэрству Народнай Адукацыі, якім цяпер, у адсутнасьць міністра, кіруе першы намесьнік міністра, Л. Сухнат, вядомая раней сваімі анты-беларускімі поглядамі, адзначана: «Шмат якія органы кіраваньня народнай адукацыяй... марудзяць з выкананьнем неабходных арганізацыйна-забясьпячэнскіх мерапрыёмстваў, штучна ствараюць дэфіцыт падручнікаў і дапаможнікаў на беларускай мове.»

Незадавальняюча наладжаная ў рэспубліцы падрыхтоўка й перападрыхтоўка пэдагагічных кадраў. У чым прычына? Гэтая праблема дасьледуецца ды ёй адведзена цімала месца ў нашым друку. Адна з асноўных прычынаў — малая колькасьць нацыянальнасьведамае інтэлігенцыі. Сытуацыя гэткая пануе на ўсёй Беларусі, аднак сталіца Менск вызначае вельмі шмат у кірунку адраджэньня нацыі. Як ні як, але на Менск раўняюцца іншыя рэгіёны Беларусі. Таму, праўдападобна, чытача зацікавяць факты ў галіне адукацыі, па гораду Менску.

У 1990/81 навучальным годзе 20 сярэдніх агульнаадукацыйных школаў былі пераведзеныя з рускамоўных у беларускамоўныя. У бягучым навучальным годзе да беларускамоўных далучана яшчэ 14. Але тут неабходна дадаць гэткую даведку: у горадзе Менску ёсьць каля 200 сярэдніх школаў. Перавязеньне школы ў беларускамоўную азначае толькі штагодні набор **першых беларускіх клясаў**; гэткім парадкам сапраўды **беларускай школа стане толькі праз 11 гадоў**.

У 1990/91 навучальным годзе было адчынена ў Менску **76 беларускіх першых** клясаў у рускіх школах, у той жа час працавалі ўжо **85 другіх беларускіх клясаў, 17 трэйцiх, 3 чацьвертыя клясы**, ды па **аднэй беларускай клясе з 4-ае да 9-е**.

З сёлетнага навучальнага году адчыненыя беларускія навучальныя ўстановы новага тыпу: 4 гімназіі, 2 ліцэі, а таксама ў дзьвюх рускіх гімназіях адчыненыя беларускія клясы. У 19-х рускіх школах вядзецца паглыбленае вывучэньне беларускае мовы й беларускай літаратуры.

Колькасьць беларускіх групаў у дзіцячых садкох Менску дасягае 490, а летась у дзіцячых садкох Менску было толькі 367 беларускіх групаў.

Трэба адзнацыць і гэткі важны мамэнт: з 1-га лістапада 1990 году ўведзеная 15-і працэнтавая надбаўка да асноўнае стаўкі ўсім пэдагогам, якія выкладаюць беларускую мову й літаратуру, а таксама выкладаюць прадметы пабеларуску.

Ці могуць задаволіць нас гэткія тэмпы на шляху стварэньня нацыянальнай беларускай адукацыі, школы? Ні ў якім разе! І ў гэтым віна вышэйшага адукацыйна-школьнага адміністрацыйнага апарату, які выяўляе ня зусім спрыяльныя адносіны да беларускасьці.

*Заканчэньне на 8-ай б.*

# ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА, 1991

**(прошча ў Мідлянд, Канада)**



*Ля беларускага крыжа. Фота С. Вініцкага*

Паломніцтва да Беларускага Крыжа, што адбылося 1-га верасьня й адначала трэйцья ўгодкі асьвячэньня яго, было люднае і надзвычай урачыстае. Матывам яго была падзяка за ўсе ласкі дадзеныя нам Богам, за абвешчаньне 25 жніўня 1991 году незалежнасьці Беларусі і малітвы аб далейшай дапамозе ў разбудове беларускай дзяржаўнасьці, асягненьня поўнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

У паломніцтве ўзялі ўдзел беларусы: зь Лёндану, Англіі; зь Менску, Пружанаў, Беларусі; з Лёс Анджэлес, Чыкага, Рочэстар, ЗША; з Таронта, Слуцку (ля Пэры Саўнд), Бэры й ваколіц Алістану, Канады.

Багаслужбы адпраўлялі: айцец Аляксандар Надсон, Апостальскі Візытатар для Беларусаў, і айцец Язэп Сіроў, настаяцель беларускай царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага. Пяяў хор з царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага пад кіраўніцтвам свайго дырыгэнта сп. Эдвін Г. Уокэра.

Перад багаслужбай вітаў беларускае паломніцтва Дырэктар прошчы айцец Джэймс Фаррэл. Ён паведаміў прысутных, што Беларускі Крыж узьнесены быў у прошчы ў 1988 годзе для адзначэньня тысячных угодкаў хрысьціянства ў Беларусі, што з таго часу кожны год адбываюцца пелігрымкі да Крыжа, і што асабліва ў гэтым годзе беларусы маюць за што маліцца, за што дзякаваць Богу й прасіць яго аб дапамогу, бо Беларусь нядаўна абвесьціла сваю волю быць незалежнай, бо перад Беларусяй наперадзе ляжыць яшчэ шмат цяжкасьцяў і выпрабаваньняў. Ён пажадаў нам, «каб увесь гэты дзень быў сьвяты, мірны й бязгрэшны».

Айцец Аляксандар Надсон падкрэсьліў, што сяньняшняе паломніцтва прысьвечанае будзе малітвам удзячнасьці за ўсе божыя ласкі для нас і ўсяго Беларускага Народу за абвешчаньне незалежнасьці Беларусі, ды малітвам аб накіраваньне й дапамогу ў змаганьні Беларускага Народу за Богам дадзеныя яму правы быць гаспадаром на сваёй собскай зямлі.

Айцец Сіроў прывітаў прысутную паэтку Натальлю Арсеньневу, якая ў часе леташняй пелігрымкі даравала царкве Хрыста Збаўцы свой пераклад у ангельскую мову малітвы «Магутны Божа», каардынатараў паломніцтва: Др. Раісу Жук-Грышкевіч й сп. Эдвін Уокэра, кіраўніка хору й адначасна каардынатара паломніцтва ў Чыкага.

Сьвятая Літургія пачалася гімнам, тэкст якога паходзіць с 1829 году: «Кантычка» — Вільня 1914, мэлёдыя традыцыйная, гарманізацыі М. Куліковіч-Шчаглова:

«О мой Божа! веру Табе
І ўсе веру я для Цябе,
усю надзею ў Табе маю,
за ўсё Цябе выхваляю...»

Дзеля прысутнасьці прыяцеляў беларусаў, амэрыканцаў і канадыйцаў, багаслужба адбывалася па-беларуску й па-ангельску. Апостала по-беларуску чытаў др. Вітаўт Рамук з Чыкага, паангельску — сп-ня Маргарэт Кэлі з Бэры. Гэтаксама й Сьв. Эвангельле чытаў по-беларуску айцец Аляксандар Надсон, по-ангельску — айцец Язэп Сіроў. Малітвы: «Веру», «Ойча наш», і малітву перад прычасьцем — «Веру Госпадзе й вызнаю, што Ты запраўды Хрыстос, Сын Бога жывога...» гаварылі ўсе вернікі хорам па-беларуску.

Найболей узварушаючай была рэлігійна-патрыятычная казань айца Надсона, мясьціны у часе багаслужбы, калі ён маліўся за памёршых і жывых працаўнікоў-змагароў за волю Беларусі, за Беларускі Народ, перад якім стаіць складанае заданьне будаваць вольную й незалежную Беларусь. Ды найважнейшым мамэнтам было прыношаньне сьвятых дароў-эўхарыстыя.

Магутны хор і ўдзел вернікаў у пяяньні гімнаў дадаваў урачыстасьці багаслужбе, якая хоць, дзеля двумоўнасьці, трывала дзьве гадзіны, ня доўжылася, бо ў ёй мы усе бралі душой і сэрцам ўдзел.

Пасьля багаслужбы працэсія з харугвамі й пяяньнем гімнаў падымалася на ўзгорак да Беларускага Крыжа.

«Крыжу Тваяму пакланяемся
Ўладыка,
і сьвятое ўваскрасеньне Тваё
славім...»

пяяў хор і вернікі.

А надвор'е было сонечнае й палетняму спакойнае й цёплае. На ўзгорку на фоне зелені хвояў стаяў нязрушна бронзава-залацісты Еўфрасінеўскі Крыж. Пабач яго ўва ўсёй сваёй красе разьвіваўся беларускі бел-чыровонабелы сьцяг, а з другога боку Крыжа, другі, з кляновым лістком, канадыйскі. А яшчэ далей абапал два валуны вартавалі беларускае сьвятое месца — беларускую прошчу.

Працэсія затрымалася перад Крыжам. Айцец Надсон у сваім уступным перад малебнам слове гаварыў пра значэньне Крыжа, і што Крыж гэты стаўся для нас сьвятым месцам, выражэньнем нашых малітваў аб еднасьць і згоду Беларускага Народу, еднасьць і згоду неабходную для асягненьня нашых вызвольных імкненьняў.

**Малебен:** «Пахвала Пачэснаму й Жыцьцядайнаму Крыжу» паводле тэксту Акафісту Пачэснаму і Жыватворчаму Крыжу Падарожнай Кніжкі Францішка Скарыны надрукованай ім ў Вільні ў 1522 годзе.

«Усе хрысьціяне маюць у Табе вялікага заступніка, жыцьцядайны Крыжу, і дзіўнага памочніка ў бедах; дзеля гэтага мы, у дары прыносім Табе песьню:

«Радуйся, пачэсны крыжу,
крывёю Госпада
нашага Ісуса Хрыста акроплены!»

«Усе людзі, ад вялікага да малога, бачылі цябе, крыжу сьвяты, узьнесеным на гары Гальгоце; мы ж, бачачы цябе тут ўзьнесеным, пакланяемся Госпаду Богу нашаму, пяючы: Алілуя!»

Гімнам «Магутны Божа« закончыўся малебен Пачэснаму, Жыцьцядайнаму Крыжу.

**Полудзень — пікнік.** У цені дрэў прошчы пад адкрытым набам галоўная кіраўнічка полудня сп-ня Бэрнардэта Мэрдак з Бэры з спадырынямі Марыяй Каладзейскай, Маргарэт Кэллі, Валяй Мікуліч і Ларысай Жукоўскай запрашаюць паломнікаў да сталоў застаўленых усялякімі стравамі й напіткамі. Пры застольлі вітаемся й знаёмімся міжсобку. Тут ёсьць між намі, апрача дастойных айцоў, паэтка Натальля Арсеньнева, сп-ства Каця і Слава Вініцкія з Лёс Анджэлес, кіраўнік хору сп. Эдвін Уокер, сп-ства Ванда і Міхась Махначы, др. Вітаўт і Вера Рамукі, дзевяностагадовая сп-ня Еўдакія Жызьнеўскай з сынам Нікадэмам, мянчанка Галіна Мясьнікова, пружанянка Ларыса Жукоўская, сп-ня Валя Мазура, сп-ства Ірэна й Віктар Касьцюкевічы, сп-ства Ніна й Язэп Чорныя, др. В. Пушкарскі, сп-ня Барбара Мураўская зь дзьвёма дачушкамі, спства Марылька й Мікола Каладзейскія, др. Валя Мікуліч, сп. Янка Новогродзкі, сьн сястры а. Янкі Тарасэвіча, сп. Гаскі, адвакат, якога дзед быў беларусам, саліст Гозэ Галарза ды шамтлікія выдатныя харысты, ды паломнікі з Чыкага. Ды нельга ня ўспомніць дзейных прыяцеляў беларусаў з Бэры: сп-ства Бэрнардэта й Морыс Мэрдакі, і сп-ства Маргарэт й Джэймс Кэлі.

Усім: сьвятаром, харыстам, кіраўніку хору, чытальнікам, арганізатарам полудня, фатографам, усім паломнікам, што прыбылі, маліліся разам з намі — бо Ісус Хрыстос казаў: «Дзе двох, ці трох зьбярэцца ў імя маё, там і я зь імі» — усім шчырая падзяка ад Арганізацыйнага Камітэту. Да пабачаньня ў беларускай прошчы налета!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

# З ЖЫЦЬЦЯ Ў ЧЫКАГА

16-га жніўня сёлета была адчыненая міжэтнічная выстаўка ў летувіскім музэі Бальзэкаса пад назвам «Дрэва жыцьця: сымбаль у фальклёры і народным мастацтве».

«Дрэва жыцьця», як паясьняла лістоўка выдадзеная выставачным камітэтам, найчасьцей паказана як дрэва з галінамі на якіх ёсьць кветкі альбо плады. Яно рэпрэзэнтуе зямлю як крыніцу ўсіх формаў жыцьця й вечнага аднаўленьня. Усходнія й заходнія культуры ўжываюць гэты старажытны сымбаль у сваіх рэлігіях, фальклёры й народным мастацтве. Сёньня, калі праблемы экалёгіі выклікаюць трывогу ў цэлым сьвеце, дрэва зноў сталася сымбалем сілаў зямлі ў аднаўленьні й утрыманьні жыцьця.

У выстаўцы прыймалі ўдзел беларусы, чэхі, грэкі, украінцы, палякі, харваты, македонцы ды іншыя этнічныя групы. Сп-ня Вера Рамук, сакратарка Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага была адказнай за ўладкаваньне беларускіх экспанатаў.

Беларускія экспанаты выяўлялі «дрэва жыцьця» у розных формах народнага мастацтва. Працы сп-ні Людвікі Бяленіс — вялікодныя пісанкі, вышыўкі, жырандолі з саломкі ды іншыя прадстаўлялі «дрэва жыцьця» ў простай гэамэтрычнай форме. З калекцыі Веры Рамук былі на выстаўцы пано-інкрустацыя саломкай, драўляныя пісанкі, ды вышыўка з трыма дрэвамі ў кветках. Вышыўка «Мая сяліба» работы сп-ні Эўдакіі Жызьнеўскай, што прадстаўляла «дрэва жыцьця» з пладамі й гняздо з буслямі выклікала асаблівае зацікаўленьне наведвальнікаў ды гэтаксама літургічнае пакрыцьцё на пульпіт з вышытым сказам па-беларуску: «Успомні нас, Божа, у славе й валадарстве Тваім».

Усе беларускія экспанаты карысталіся вялікім посьпехам.

### ПІЛЬГРЫМКА ДА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА

З году ў год ладзяцца пільгрымкі да беларускага крыжа ў Мідлянд, Канада. Сёлета парафіяне беларускай каталіцкай царквы ўсходняга абраду Хрыста Збаўцы ў Чыкага ў ліку 24 асобы разам з а. Надсонам, які наведаў парафію, паехалі нанятым аўтабусам на прошчу да Крыжа.

З гэтай нагоды а. Язэп Сыру выдаў спэцыяльную праграму літургіі сьв. Яна Златавуснага, дзе быў памешчаны, між іншага гімн: «О, мой Божа» на музыку Міколы Куліковіча.

31-га жніўня нашая група прыбыла ў горад Бэры, Канада, дзе затрымаліся на начлег. 1-га верасьня прыехалі мы ў Мідлянд да Сьвятыні Мучанікаў, дзе ўжо быў а. я. Сыру, ды іншыя беларусы-паломнікі з Амэрыкі й Канады.

Пасьля ўрачыстай літургіі, працэсіі ды малебну каля Крыжа, пільгрымы яшчэ мелі нагоду пры раскошным застольлі падзяліцца думкамі са сваімі суродзічамі.

Пазьней нашая група наведала езуіцкі місыйны пасёлак 17-га стагодзьдзя, а 2-га верасьня вярнуліся ў Чыкага.

**Вітаўт Рамук**

# БЕЛАРУСЫ МАНТРЭАЛЮ СЬВЯТКУЮЦЬ КУПАЛЬЛЕ

У Мантрэалі невялікая, але актыўная група беларусаў. 23-га чэрвеня сёлета сабраліся яны ў Сатэн, Усходні Квэбэк каб адсьвяткаваць традыцыйнае Купальле ды ўшанаваць нашага песьняра Янку Купалу. Цудоўны сонечны дзень спрыяў для стварэньня прыемнай сардэчнай атмасфэры на ўрачыстасьці. Людзі зьехаліся каб пагаварыць, павесяліцца, абмяняцца ўспамінамі як гэты дзень сьвяткаваўся на Бацькаўшчыне. За смачным пачастункам прысутныя мелі прыемнасьць паслухаць верш, які напісаў Валодзя Бяльмач, спэцыяльна для гэтай нагоды.

Вечарам за традыцыйным вогнішчам зноў гутаркі, успаміны, песьні, жарты й скокі праз вагонь. На заканчэньне моладзь наладзіла спэктакулярныя фээрвэркі.

Беларусы Мантрэалю ўжо ад даўнейшага часу ходаюцца каб набыць свай грамадзкі будынак і царкву. Яны патрабуюць дапамогі ад шырэйшага грамадзтва ў выглядзе грашовых пазыкаў, якія будуць зьверненыя, альбо ахвяраў. Усіх зацікаўленых дапамагчы ім набыць маемасьць просім зьвятацца да:

A. Chrenowski
1973 Romiti
Chemedey, Laval
P. Q. H7T 1J7
Canada

***Язэп Вішневіч***

# ДЗЕЦІ ЗЬ БЕЛАРУСІ Ў КАНАДЗЕ



*Група беларускіх дзяцей на экскурсіі ў Upper Canada Village.*

У другой палове ліпеня і ў жніўні гасьціла ў Канадзе 69 дзяцей зь Беларусі з раёнаў забруджаных радыяцыяй. Іхны прыезд заўдзячваецца супрацоўніцтву між дабрачынным Фондам БНФ «Дзеці Чарнобыля» і Канадыйскім фондам Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі.

Думка прывезьці ў Канаду на летні адпачынак беларускіх дзяцей пацярпеўшых ад Чарнобыльскай бяды ўзьнікла ў д-ра Барыся Рагулі й яговых сяброў у Лёндане, Онтарыё. У сувязі з гэтым, яны запрасілі тадышняга старшыню Дабрачыннага Фонду БНФ Генадзя Грушавога для абмеркаваньня справы. Падчас візыту ў канадыйскай сталіцы, Атаўская газэта "The Ottawa Citizen" апублікавала гутарку з Грушавым, у якой ён, міх іншым, інфармаваў пра намаганьні Фонду высылаць дзяцей з забруджаных зонаў за мяжу. Пасьля публікацыі інтэрв'ю, пасыпаліся лісты й тэлефоны ад канадыйскіх сем'яў, прапануючых прыняць дзяцей зь Беларусі. Неўзабаве была створаная пры Канадыйскім Фондзе Дапамогі Ахвярам Чернобыля ў Беларусі (зарганізаваная канадыйскімі беларусамі) ініцыятыўная група, якая занялася арганізацыяй прыёму беларускіх дзяцей.

Пасьля шматлікіх праблемаў, часам мяжуючых з безнадзейнасьцяй, і напружаных мамэнтаў усё паступова вырашылася й першая група (12 дзяцей і адзін настаўнік) прыляцелі 15-га ліпеня. Другая група (24-х дзяцей і двух настаўнікаў) прыбыла 20-га ліпеня, трэйцяя (11 дзяцей і адзін настаўнік) 22-га ліпеня і, нарэшце, апошняя, чацьвертая група (22-х дзяцей і два настаўнікі) 27-га ліпеня. «Настаўнікамі» былі выкладчыкі Інстытуту Замежных моваў у Менску, якія мелі аблегчыць камунікацыю між дзецьмі й сем'ямі, дзе яны знаходзіліся. Іхная роля выявілася вельмі патрэбнай і важнай.



*Толькі прыехалі ў Атаву;ператомленыя пасьля 40-гадзіннага падарожжа.*

Дзеці прыбыліператомленыя, асабліва першыя тры групы. Ім трэба было дабірацца да Масквы, правесьці ноч у Маскве, пасьля падарожжа ў Прагу, там чакаць чатыры-пяць гадзінаў, і нарэшце ляцець у Мантрэаль (8-9 гадзін). Усяго разам больш за 40 гадзін дарогі. Але-ж і ў Мантрэалі падарожжа яшчэ не канчалася. Ад лётнішча Мірабэль да Атавы каля 200 кілёмэтраў, а ад Атавы да мейсца прызначэньня ад паўгадзіны да сямі гадзін.

Усяго разам прыехала ў Канаду 69 дзяцей (адно захварэла перад адездам і засталося дома). Сярод іх 41 дзяўчынка і 28 хлапчукаў у веку ад васьмёх да дванаццацёх гадоў. Прыехалі дзеці з Гомеля, Кармы й ваколіцаў, Мазыру й ваколіцаў, з Добружа, Буда-Кашалёва й ваколіцаў, з Пінску й ваколіцаў і нават двое зь Менску. Бацькі дзяцей пераважна рабочыя на прадпрыемствах і ў сельскай гаспадарцы (калгаснікі), колькі настаўнікаў, інжынэраў, і пару кіраўнікоў прадпрыемстваў. Дзець гавораць міжсобку па-расейску. Тыя, што з гарадоў беларускай мовы ў бальшыні ня ведаюць, але дзеці з сельскіх мясцовасьцяў гавораць па-беларуску, бо, як яны расказвалі, у іх і дома гавораць па-беларуску. Тутэйшыя беларусы былі ўражаныя, калі пачулі, што настаўнікі гаварылі зь дзецьмі па-расейску.

Беларускія дзеці сталіся, падчас усяго свайго пабыту, асаблівай прывабай для сродкаў масавай інфармацыі. Ня было таго дня, каб не зьявіўся які рэпартаж у тэлебачаньні, радыё альбо ў прэсе. Журналістыя былі ўсюды, дзе арганізоўвалася нейкая экскурсія. Яны рабілі рэпартажы аб жыцьці дзяцей ў сем'ях, бралі інтэрв'ю зь дзецьмі й настаўнікамі. Старшыня Канадыйскага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобылю ў Беларусі, Івонка Сурвіла дала ў гэтым часе больш за 40 інтэрв'ю.

Расказваючы пра жыцьцё на Беларусі, адна настаўніца, Тамара Коласава, успомніла пра цяжкі лёс інвалідаў, бо яны ў шмат якіх выпадках ня могуць рухацца. Пачуўшы гэта, сябры Канадыйскага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля адразу-ж зарганізавалі кампанію збору ўжываных каляскаў для інвалідаў, каб пераслаць іх на Беларусь. За кароткі час сабралі 44 каляскі, зладзілі талаку каб іх запакаваць і адвезьлі на лётнішча. Каляскі ўжо ў Менску. Гэтаксама было сабрана колькі сот кілеграмаў — 15 скрынкаў — шпрыцаў, вітамінаў лекаў і розных матар'ялаў патрэбных для шпітальных лябараторыяў. Гэта таксама ўжо ў Менску.



*Алесь Татаркін гуляе са сваім «бацькам» у шахматы. Яму ня было роўных.*

Іхнымі часовымі канадзкімі «бацькамі» былі пераважна настаўнікі сярэдніх школаў, якія былі вольныя ў гэтым часе й маглі заапекавацца дзецьмі. Былі таксама лекары, дэнтысты, фармацэўты, журналісты, урадаўцы і нават адна ведамая сьпявачка, Анна МакГарыгэл. Бальшыня сем'яў мела сваіх дзяцей ў гэткім-жа веку. Гэаграфічна яны канцэнтраваліся ў трох зонах: ваколіцы Атавы, Таронта й Ірокуіс Фолс.

Часовыя «бацькі» далі дзецям усё на што могуць быць здольныя шляхотная душа й вялікае сэрца — усё рабілі, каб дзеці былі шчасьлівыя.

Суадносіны паміж дзецьмі й часовымі «бацькамі» былі надзвычай цёплыя. Аб гэтым яскрава сьветчыць факт, што як дзеці адязджалі дык плакалі й дзеці і іх часовыя «бацькі» і тутэйшыя сябры.

Беларускіх дзяцей афіцыйна запрасіла кіраўніцтва знаных турыстычных цэнтраў Канады: Upper Canada Village, Old Ford Henry, Canada's Wonbderland. У Upper Canada Village дзеці пабачылі жыцьцё мінулага стагодзьдзя ў Канадзе; у Форт Гэнры ім было паказана, як ваявалі ў тыя часы — іх забаўлялі жаўнеры ў тагачасных мундзірах, вучылі маршыраваць. Canada's Wonderland — Канадыйская казачная краіна — прадстаўляе сабою турыстычны атракцыён. Дзеці там вельмі добра пазабаўляліся і аб гэтым шмат гаварылі. На пытаньне журналістых «што вам найболей спадабалася ў Канадзе», тыя што там былі, адказвалі — Canada's Wonderland.



*Журналіст Дэвін Эванс з Аксанай Карпёнак (справа) і сваімі дзецьмі.*

Беларускія дзеці адляцелі дамоў у дзьвёх групах: 25-га і 27-га жнівеня. Усе заехалі шчасьліва. Разам з апошняй групай паехаў таксама журналіст газеты *The Ottawa Citizen* Дэвід Эванс, які хацеў пабачыць дзе і як жыве васьмігадовая Аксана Карпёнак, якая гасьціла ў яговай сям'і, а таксама зрабіць колькі рэпартажаў зь Беларусі.

А тымчасам сем'і ўжо рыхтуюцца да наступнага году...

Цяпер-жа, у Лёндане, Антарыё прыбыла яшчэ група беларускіх дзяцей, прыезд і пабыт якой арганізаваў Др. Барыс Рагуля з сябрамі. Яны там маюць правесьці два месяцы й хадзіць у канадыйскія школы.



*Талака. Пакаваньне каляскаў для інвалідаў.*

# IV-Ы САБОР БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ



*Пачэснае духавенства на Саборы. Фота А. Дубягі*

У днях 5-га й 6-га кастрычніка 1991-га году адбыўся ў Царкве Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд Парк, Нью Джэрзі, Злучаныя Штаты Амэрыкі, IV Сабор Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. На парадку дня Сабору былі звычайныя справы, прадбачаныя Статутам БАПЦ, як справаздачы кіруючых і кантрольных ворганаў БАПЦ, выбары новых ворганаў ды падрыхтоўка пляну працы на будучыню. Аднак у сувязі з падзеямі на Беларусі за апошнія сем год, Чарнобыльская катастрофа, развал бальшавіцкай сыстэмы ды дэмакратызацыя жыцьця, сталі важнай тэмай нарадаў Сабору. Гэтаму пытаньню быў прысьвечаны рэфэрат Першагерарха БАПЦ Архіяпіскапа Мікалая «БАПЦ сяньня й яе роля ў зьмененым сьвеце». Важнасьць гэтага Сабору разумелі ўсе: нашае духавенства, парахвіяне й беларускае грамадзтва. На Сабор прыбылі прадстаўнікі духавенства, парахвіянаў ды беларускага грамадзтва з усіх парахвіяў і місіяў БАПЦ.

Сабор распачаўся а гадз. 2-ой папаўдні ў суботу малебнем у Царкве Божай Маці Жыровіцкай. Службу вёў Уладыка Мікалай у саслужэньні духавенства БАПЦ. Нарады Сабору пачаліся адразу пасьля Божай службы. Уладыка Мікалай прывітаў прысутных і прасіў выбраць Прэзыдыюм Сабору. У Прэзыдыюм увайшлі: Архімандрыт а. Карп Стар, мітр. прат. Аляксандар Радэнковіч і сп. сп. М. Ганько, В. Русак і Б. Кірка. У Мандатную Камісію былі выбраныя а. прат. Васіль Андрэюк — старшынёю, а. прат. Міхась Страпко й сп. А. Сільвановіч — сябрамі Камісіі. А. прат. В. Андрэюк паінфармаваў, што на Саборы прадстаўлены дзевяць парахвіяў БАПЦ, прысутнічае сем сьвятароў БАПЦ, ёсьць галасы ад 11-ці Сябраў Рады БАПЦ ды 12-ці дэлегатаў на Сабор. Была выбраная Рэзалюцыйная Камісія ў складзе: а. прат. В. Андрэюка, сп. М. Ганька й сп. В. Русака.

У сваім дакладзе Ўладыка Мікалай сьцьвердзіў, што ў нашым царкоўным жыцьці вялікіх зьменаў ня было, хоць мы павялічылі рады нашага духавенства й заснавалі новыя місіі ў Лёс Анджэлес, Каліфорнія, Наплес, Флярыда, ды ў Пэрт, Аўстралія і БАПЦ працуе у гэтым напрамку далей.

У парахвіях Гайленд Парк й Дороты, Нью Джэрзі былі зробленыя рамонты царкоўных будынкаў. Робіцца пляны пабудовы новай царквы ў Кліўленд, Огаё. Былі навязаныя кантакты з праваслаўнымі цэрквамі ў Беластоку й Менску. Плянуецца наведаньне Менску й Беластоку для паглыбленьня гэтых кантактаў. Важнай падзеяй у жыцьці нашай Царквы было заснаваньне «Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі», ды збор сродкаў на гэтую мэту. Дапамога ахвярам Чарнобыля праводзіцца ў розных формах.

Нашай бліжэйшай мэтай ёсьць высылка дзясяткаў тонаў лякарстваў ды мэдычных прыладаў на Беларусь. Заплянаванае падарожжа на Беларусь мае на мэце таксама выпрацаваньне практычных спосабаў дастаўкі й распаўсюджаньня лекаў і мэдычных прыладаў на месцы. Сяньня мы ёсьць сведкамі вялікіх гістарычных падзеяў, што вызвалілі наш народ зь няволі бязбожнага камунізму, але збудаваньне дэмакратыі ёсьць вельмі цяжкім заданьнем. Каб быць шчасьлівым, духова й матар'яльна багатым, народ патрабуе быць духова чыстым і багатым. І вось роля Праваслаўнай Царквы — стварыць духовы фундамэнт для будучыні свайго народу. Уладыка прасіў Рэзалюцыйную Камісію уважыць гэтыя мамэнты пры складаньні рэзалюцыі.

Сп. П. Кажура зьвярнуў увагу прысутных на вялікую выдавецкую працу Ўладыкі Мікалая; ён прыгадаў выданьне Малітоўніка ў 1966 г., Служобніка ў 1966 г., Настольнага Евангельля ў 1988 г. і перавыданьне Малітоўніка ў 1990 г.

Дэлегаты Сабору выказалі жаданьне паднясеньня Ўладыкі Мікалая да чыну Мітрапаліта. Мітр. прат а. А. Родэнковіч зрабіў фармальную прапанову Сабору БАПЦ даць Архіяпіскапу Мікалаю тытул Мітрапаліта Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы за ягоныя заслугі перад Царквой. Уладыка Мікалай падзякаваў за ўвагу й ацэну яго дзейнасьці ды зазначыў, што «ў Грэцыі чын Архіяпіскапа ёсьць вышэйшы за чын Мітрапаліта. Мы бязумоўна павінны шанаваць і свае традыцыі, я прыму рашэньне Сабору й буду далей працаваць для дабра нашай Царквы й нашага народу.» Усе прысутныя ўсталі й прасьпявалі Мітрапаліту БАПЦ Мікалаю «Аксіёс».

У нядзелю, 6-га кастрычніка адбылася ўрачыстая Божая Служба з удзелам усяго духавенства. Падчас Службы былі пастрыжаны ў паддыяканы. а. Цімох. Была адслужаная паніхіда ў памяць Усяленскага Патрыярха Дзімітра.

Праца Сабору прадаўжалася падчас абеду на якім было шмат гасьцей. Старшыня Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Амэрыцы Сп. Антон Шукелойць вітаў Уладыку Мікалая з IV-ым Саборам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ды з паднясеньнем яго да чыну Мітрапаліта.

Мітр Прат. Аляксандар Родэнковіч выказаў задавальненьне з добра праведзенага Сабору ды высьвячэньня дыякана.

Рэзалюцыя IV-га Сабору БАПЦ была прынятая Саборам аднагалосна й далучаецца да гэтай карэспандэнцыі.

Сабор закончыўся малітваю.

**Васіль Русак**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ 4-га САБОРУ БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

Мы ўдзельнікі: духавенства й вернікі, 4-га Сабору Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, што адбыўся ў Гайленд Парк, Нью Джэрзі, ЗША, жадаем выказаць нашае задавальненьне з палітычных зьменаў, што мелі месца на Бацькаўшчыне ў Рэспубліцы Беларусь, якія прынесьлі незалежнасьць і некаторую свабоду Беларускаму Народу.

Мы молімся, каб гэтая свабода была сапраўднай і вечнай. Мы верым, што Беларусь знойдзе аснову для свае дзяржаўнасьці ў сваіх уласных, гістарычных, прынцыпах законнасьці. Мы пэўныя, што наша Царква знойдзе напрамак у сваім прошлым, сваіх духоўных і дзяржаўных правадырах: Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай — Асьветніцы 12-га стагоддзя, Сьвятым Кірыле Тураўскім — Асьветніку й Духоваму Правадыру 12-га стагодзьдзя, др. Францішку Скарыне — першадрукару Біблії ў беларускай мове, вучонаму й філёзафу 16-га стагодзьдзя, Канцлеру Льву Сапегу — выдаўцу Статуту Вялікага Княства Літоўскага ў 16-ым стагодзьдзі на беларускай мове, найбольш выдатнага твору права ў тагачаснай Эўропе.

Мы верым, што Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква асягне поўную свабоду, каб магчы прадаўжаць, гістарычную місію духовага правадырства ў сваім народзе і што яна будзе прамаўляць да свайго народу ў ягонай роднай беларускай мове.

Мы ўдзельнікі 4-га Сабору БАПЦ пацьвярджаем прынцып свабоды сумленьня згодна з традыцыяй нашага народу ды згодна з пастановай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з дня 25-га Сакавіка, 1918-га году. Мы, аднак, ёсьць рашуча супроць умешваньня вонкавых ці нутраных дзейнікаў у рэлігійнае жыцьцё Беларусі, што здаралася ў мінулым ды прыносіла шкоду нашаму народу.

Мы ўдзельнікі 4-га Сабору БАПЦ хочам ўшанаваць памяць тысячаў беларускіх сьвятароў на чале з Мітрапалітам Мэлхісэдэкам, што аддалі сваё жыцьцё за сваю веру й за сваю Царкву ў 1920-ых ды пазьнейшых гадох і мы хочам ушанаваць памяць усіх тых хто згінуў у абароне свайго народу, яго культуры й мовы на працягу апошніх 70-ці гадоў.

Мы сардэчна віншуем Высока Дастойнага Ўладыку Мікалая зь яго паднясеньнем да чыну Мітрапаліта ды жадаем Яму добрага здароў'я й посьпеху ў адказнай працы.

*Рэзалюцыйная Камісія: а. прат. Васіль Андрэюк, Мікалай Ганько, Васіль Русак*

## АМЭРЫКАНСКА-БЕЛАРУСКАЕ ВЯСЕЛЬЛЕ



*Аня Бартуль і Сяржук Сокалаў-Воюш пасьля шлюбу.*

21-га жніўня сёлета ў Новаполацку, Беларусь, пабраліся Аня Бартуль і Сяржук Сокалаў-Воюш. Аня — доктар-дэнтыст зь Нью-Ёрку, актыўная ў беларускіх грамадзкіх арганізацыях; Сяржук — ведамы беларускі бард з Новаполацку. Цывільны шлюб адбыўся ў Новаполацкім ЗАГС-е. Маладыя былі ўбраныя ў прыгожыя нацыянальныя строі. Жанчына-судзьдзя адправіла па-беларуску шлюбную цырымонію. Пасьветкі аб шлюбе таксама на беларускай мове. Сьветкамі былі Ніна Сокалава і Якуб Лапата.

Пасьля шлюбу маладыя паехалі ў Полацак і склалі кветкі каля помніку Ф. Скарыну. Скромны, безалкагольны вясельны абед завяршыў урачыстасьць. Рэшту дня Аня й Сяржук правялі ў тэлефонных гутарках зь Менскам (якраз у гэтым часе адбываліся гістарычныя падзеі — гэта быў 3-і дзень путчу). А 6-ай гадзіне па-паўдні былі яны ўжо на паседжаньні Беларускага Народнага Фронту.

Вось як правялі свой шлюбны дзень дзейныя беларускія патрыёты Аня й Сяржук. Дай Бог ім шчасьця ў іхным далейшым жыцьці.

***Тацьцяна Ермаковіч (Мартыненка)***

### *НА ПРЫЙМО Ў ДОКТАРА БОГА*

***Прысьвячаю Вітаўту М.***

*«...яна (Жыва),*
*як прывідную ласку,*
*страчала зморaныя душы...»*
*Алесь Емельянаў*

Доктар-Бог!
На шэрасьць хвароба
аберуч бярэ ды сячэ.
Клічу Жыву да зьнямогі,
а яна згубілася, ня йдзе.

Доктар-Бог!
Дазваньня пасечана
цела зьбялелае душы,
безабліччам аблічча зьнявечана —
джаляць сэрца шнары нематы.

Доктар-Бог!
Напой твой гаючы — атрута,
няма ад шэрасьці збаўленьня!
Бо немач ужо не пакута,
яна ў існасьці самой сумненьне.

Доктар-Бог...
Мне-б... сьцішыцца... адно-б
заснуць...
І ў сьне — пад самае раньне —
вантробам памерлым адчуць
далёкае Жывы дыханьне...
Доктар мой Бог!..

## Паважанага Міколу Шуста вітаем з 70-годздзем

ды жадаем шмат памыснасьці ў грамадзкай і культурна-рэпрэзэнтацыйнай дзейнасьці.

*Сябры зь Лювэну,*
*управа БАЗА і*
*рэдакцыя «Беларуса».*

## ЗВАРОТ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

Сёлета Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва адзначае сваё 40-годзьдзе (1951-1991). За гэтыя сорак гадоў пад грыфам Інстытуту выйшла колькі дзесяткоў большых і меншых кнігаў, друкаваліся рэгулярна «Запісы» Інстытуту, ладзіліся выстаўкі, канфэрэнцыі. БІНІМ наладзіў таксама абмен як беларускімі друкамі, гэтак і патрэбнай інфармацыяй пра Беларусь зь дзьсяткамі дасьледных установаў, каледжаў і унівэрсытэтаў. Вельмі памысна наладжвае БІНІМ у цяперашнім часе і навуковыя кантакты ды супрацоўніцтва з дасьледнымі ўстановамі на Беларусі.

У сваёй дзейнасьці дасюль Беларускі Інстытут задавальняўся сяброўскімі складкамі, прыбыткам з продажу друкаў, ахвярамі ад прыхільнікаў, аднаразовымі датацыямі беларускіх прыходаў, Рады БНР, ды, для выданьняў «Запісаў», сталай дапамогай Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага.

Аднак, паколькі выдавецкая дзейнасьць БІНІму набывае штагоду большых памераў (у плянах Інстытуту — выданьне колькіх слоўнікаў, успамінаў, большых бібліяграфічных працаў і г.д.), сродкаў з дасюлешніх крыніцаў ня будзе хапаць, каб задаволіць усе выдавецкія пляны Інстытуту.

Дзеля гэтага Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва вырашыў зьвярнуцца па фінансавую дапамогу ды шырэйшага беларускага грамадзтва на захадзе. Гэтай адозвай Інстытут просіць беларускае грамадзтва аб фінансавай дапамозе, каб пасьпяхова весьці выдавецкую дзейнасьць.

Ахвяры просіцца слаць на адрас:

**Byelorussian Institute of A&Sc.**
**230 Springfield Ave**
**Rutherford, N.J. 07070**

*Ахвяры на выдавецкі фонд БІНІМу*

| | |
|---|---|
| Л. і У. Брылеўскія | ам. д. 250.00 |
| Др. У. Набагез | 500.00 |
| М. Грэбень | 40.00 |
| Др. Ірэна Гайдзель | 150.00 |
| Др. В. і В. Рамук | 100.00 |
| М. і В. Махнач | 100.00 |
| В. Кірка | 30.00 |
| Р. Беразоўскі | 100.00 |
| А. Лашук | 175.00 |
| Др. Р. Жук Грышкевіч | 100.00 |
| Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Канадзе | 425.00 |
| Беларускі Каардынацыйны Камітэт Канады | 800.00 |
| Я. Жучка | 50.00 |
| W. T. Frassa(у памяць д-ра Б. Грабінскага) | 50.00 |
| К. Ворт | 100.00 |
| А. Монід | 87.18 |
| Др. А. Романо | 30.00 |
| О. Грыцук | 100.00 |

## ШУКАЮЦЬ СВАЯКОЎ

Суродзічы з Берасьця шукаюць Сахарука Паўла, ягоную жонку Ядзьвігу двух сыноў і дачку. Апошнія весткі мелі ад іх у 1947 годзе зь Нью-Ёрку. Просім зьвяртацца на адрас:

224014 Брэст
2-гі Западны перав. д. 37/1
Швэд Екацярына

Генадзь Кудзелка з Салігорску шукае свайго роднага дзядзьку па матцы, які, быў вывезены са Слуцку ў 1944 г., Марыніча Васіля Нікітавіча.

Пісаць на адрас:
БССР
223710 Менская вобласьць
г. Салігорск
вул. Окцябрская, д. 31, кв. 50
Кудзелка Генадзь

## ПРАДАЮЦЦА КАСЭТЫ




Данчык сьпявае па-украінску. Касэта «Равеснікі», 12 песьняў. Каштуе 11 даляраў зь перасылкай.



Лявон Барткевіч, беларуская касэта «Сьпявай мне, дзяўчынка», 12 песьняў. Цана касэты зь перасылкай; 11 даляраў.

## БЕЛАРУСКІ ДРУК

### ЗВАЖАЙ № 3 (63)

Зьмест нумару: К. Акула — Як арганізаваліся беларусы ў Канадзе; Ул. Скрабатун — Падарожжа ў Беларусь, як махляры рабілі рэфэрэндум; Гэтак ушанавалі Максіма; Паможам Гутырчыку, ды колькі артыкулаў — зацемак аб нападах савецкага друку на «Зважай» ды беларускае хронікі. У большым артыкуле — адозве «Сустрэнемся ў Менску» выказаная думка, каб склікаць наступную сустрэчу беларускіх вэтэранаў на бацькаўшчыне ў Менску.

Выйшаў 6-7-ы нумар часапісу **«Полацак»,** у якім выдрукавалі артыкулы, зацемкі, хроніку каля 20-х аўтараў у гэтых рубрыках: Наша гісторыя, Пад Бел-чырвона-белым сьцягам, Памяць зямлі, Пачынальнікі, Далёкае і блізкае, Роднае слова, Чарнобыльскі шлях, Згукі з Бацькаўшчыны. У часапісе колькі рэпрадукцыяў беларускіх мастакоў ды тэхнічнае афармленьне Андрэя Карпука. Рэдагуе часапіс — калегія; галоўны рэдактар Сьвятлана Белая. Кошт часапісу дал. 8.50, набываюць праз грамадзкі цэнтр «Полацак» у Стронгсвіл, штат Агаё.

З друку выйшаў 4-ы (за месяц верасень) чародны нумар газэты **«Беларускі Калекцыянер»**, орган арганізацыйнага камітэту Беларускага Таварыства Калекцыянэраў. У нумары гэткія большыя артыкулы: Сымболіка і Беларуская філатэлія — Гая Пікарды; Новыя гербы местаў Беларусі — В. Сержана; Часовыя паштовыя аддзяленьні — Л. Коласава; Нацыянальны па форме, інтэрнацыянальны па зьмесьце? — Т. Масьлюкова; Беларускія манетныя двары (працяг) — М. Верацілы; Пад ботам акуанта — І. Матавілава; Аповяд Лікоўскага скарбу — І. Сінчука; Паўлаўская Рэспубліка — С. Цярохіна; ды колькі хранікарскіх зацемак ды перадрукаў.

Часапіс-газэта выдаецца на прафэсыйным узроўні, ды сапраўды зьяўляецца пiянэрам у галіне беларускага калекцыянаваньня. Рыхтавалі нумар Алесь Сярожкін, Уладзімір Цярохін і Мікола Дземідовіч. Кошт нумару 80 кап. Адрасы для ліставаньня й падпіскі:

211030, м. Ворша,
вул. Флёрава 7, кв. 16
Алесю Сярожкіну

220131, Менск-131, п/с 229
Уладзіміру Цярохіну

**«ФОС»** — квартальнік моладзі Беластоцка-Гданьскай Епархіі, нумары 7-9, за 1991 год зьмяшчае хроніку жыцьця моладзі розных праваслаўных прыходаў ды колькі артыкулаў царкоўна-рэлігійнага зьместу. Часапіс выдаецца ў Беластоку.

**«Голас Часу»,** царкоўна-грамадзкі часапіс нр. 14/5 за верасень-кастрычнік 1991 году. У часапісе панад 15 артыкулаў грамадзка-культурнага палітычнага зьместу ды хронікі беларускага жыцьця ў дыяспары.

У Віцебску пчала выходзіць двумоўная газэта **«Выбар»** — орган дэмакратычных плыняў Прыдзвінска-Прыдняпроўскага Краю. Рэдакцыя зазначае ў 1-ым нумары (2-га кастрычніка), што газэта плянуецца быць тыднёвай, але пакуль што будзе выходзіць нерэгулярна, бо нехапае паперы. Плянуецца таксама дадатак да газэты-хрысьціянскі выпуск Брытанскага Цэнтру выхаваньня моладзі.

## СЬВ.†ПАМ. МІХАСЬ БУЛЫГА (8.XI.1923 — 28.VII.1991)

Пасьля цяжкой хваробы, дня 28 ліпеня сёлета, на 68 годзе жыцьця адыйшоў на вечны супачынак наш дарагі муж, бацька, дзед і прыяцель Булыга Міхась. Заўсёды, пры кожнай нагодзе быў ён вельмі шчырым, ахвярным і гарачым патрыётам-беларусам.

Нарадзіўся Міхась у сялянскай сям'і ў вёсцы Палянічыцы, каля Баранавіч. Зь юнацкіх яшчэ гадоў распачаўся яго цярністы шлях жыцьця: савецкая акупацыя Заходняй Беларусі, у 1941 — нямецкая, у 1944 годзе эвакуацыя ў Нямеччыну. Па заканчэньні вайны апынуўся у Францыі, дзе заангажаваўся ў францускі чужаземны легіён. Закончыўшы контракт легіёну працаваў на мэталюргічнай фабрыцы ў горадзе Ле Крэзот, дзе й дачакаўся адпачынку-пэнсыі. У 1989 годзе, будучы ўжо хворым, меў вялікую прыемнасьць спаткаць і гасьціць у сябе роднага брата ды двух пляменьнікаў з жонкамі, якія прыехалі з роднай Беларусі, каб яго яшчэ пабачыць. Нажаль здароў'е яго неспадзявана пахіснулася і адыйшоў ён ад нас зарана, пакінуўшы жонку Яніну, сына Янку Міхася, сынову Элізабэту, унукаў Карыну і Мацея.

Няхай яму будзе пухам ветлая француская земелька.

**Сям'я і прыяцелі-землякі**

### СТАН АДУКАЦЫІ *(працяг з 3-й б.)*

Аднак і ў дадзенай сытуацыі могуць быць аптымістычныя ноткі: канчына камуністычнага кантролю, ды іх ідэалёгіі інтэрналізацыі і русыфікацыі. І тым ня менш, нацыянальна думаючай беларускай інтэлігенцыі і грамадзтву, наперадзе вялікая праца, каб адрадзіць тое што было вынішчанае, каб выправіць тое, што было сфальшаванае.

Вялікая надзея ў нашым цяперашнім адраджэньні на маладыя кадры, якія пераймаюць эстафэту нацыянальнага руху з клічам **ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

### ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Зьвятаюся да Вас за дапамогай.

Беларускаму роду Мітэраў з-пад Менску амаль 360 гадоў. Нашыя продкі жыцьцём і кроў'ю заслужылі шляхецтва і родавы герб «Прус-2» пад баявым сьцягамі Вялікага гетмана Літоўскага.

Паўстаў Міжнародны камітэт роду, першая мэта якога — арганізавацьсьвяткаваньне юбілею. Мы адшукалі шмат суродзічаў за межамі Беларусі, але не можам адшукаць у ЗША, хаця ведаем, што й там есьць нашчадкі роду. Недзе у 1910 г. з Менскага уезду Менскай губэрні выехаў у ЗША Мітэр (Miter) Вільгельм Вікенцевіч, 1880 г. нараджэньня (в. Таўкачоўшчына Менскага уезду). У 1939 г. ён жыў недзе пад Нью-Ёркам у месцы Hastings. У яго напэўна былі дзеці. Прозьвішча магло трохі зьмяніцца на: Mitter, Mitar, Mitor.

Ці нельга іх адшукаць? Мы запрасілі-б іх на урачыстасьці. Будзе памінальная імша ў Кальварыйскім касьцеле, каля вёсачкі Белякова, якая, на шчасьце, захавалася. Пры дарозе паставім вялізны камень-валун зь надпісам: «Адсюль пайшоў род Мітэраў. 1633 г.» Першы раз за апошнае стагодзьдзе род зьбярэцца разам. Складзены радавод да 12-га калена. Сьвяткаваньню мы імкнемся надаць патрыятычнае гучаньне.

Жыве Беларусь!

**Ст. Міжнарод. камітэту роду, сябра тав-ва «Беларусы Сібіры» Мітэр Альберт Антонавіч, навуковец Новосибирск У. Жемчужная 30, кв. 21.**

## СЬВ. ПАМ. ДР. БАЛЯСЛАЎ ГРАБІНСКІ



Др. Балеслаў Грабінскі памёр пасьля атаку сэрца 20-га жніўня ў сваім доме ў Флярыдзе на 93-м годзе жыцьця. У асобе др. Грабінскага беларускі народ страціў аднаго з найстарэйшых адданых справе незалежнасьці Беларусі дзеячоў. Яго актыўнасьць праяўлялася ў розных галінах грамадзка-палітычнага жыцьця ў Заходняй Беларусі. Як ведамы ў Вільні лекар-дэнтысты з шырокай практыкай дапамагаў матарыяльна беларускім арганізацыям, а перадусім Беларускаму Навуковаму Таварыству, якога ён быў віцэ-старшынём, Беларускаму Музэю імя Івана Луцкевіча, у якім пасьля Антона Луцкевіча, быў другой асобай; дапамагаў таксама беларускім газэтам і часапісам нацыянальнага кірунку, ды беларускай студэнцкай моладзі. Др. Грабінскі апрача лекарскай практыкі займаў пасаду асыстэнта пры катэдры анатоміі мэдыцынскага факультэту Віленскага унівэрсытэту, а пасьля эвакуацыі ў 1943 годзе Магілёўскага мэдыцынскага інстытуту ў Новую Вілейку, быў запрошаны дырэктарам гэтага інстытуту праф. Сьцяпанавым за кіраўніка катэдры анатоміі і выкладчыка. Др. Грабінскі браў удзел у працы грамадзка-палітычных арганізацыяў нацыянальна дэмакратычнага характару ў Заходняй Беларусі, а ў часе 2-ой Сусьветнай вайны быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні.

У асобе сьв. пам. др-а Грабінскага беларуская эміграцыя ў Злучаных Штатах страціла актыўнага сябру нашых арганізацыяў: Рады БНР, БІНІМ, БАЗА, а жонка й сям'я кахаючага мужа й бацьку.

Вечная памяць. **А. Ш.**

## СЬВ.†ПАМ. ВАСІЛЬ ТУР

Нарадзіўся 25 травеня 1920 году ў вёсцы Баранілавічы Берасьцейскае вобласьці. Хутка пасьля арышту бальшавікамі бацькі нябожчыка, сям'я — маці трое братоў і сястра — была вывезеная ў Казахстан. Бацька Павал загінуў у Сібіры, а маці Марыя памерла з голаду. У часе вайны нябожчыку ўдалося вызвліцца.

Ад 1948 году сьв. пам. В. Тур быў сябрам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі. Памёр раптоўна 7 красавіка 1991 году.

Абрад пахаваньня выканаў прат. а. А. Абабурка на могільніку сьв. Панкрата. Разьвітальное слова над магілай сказаў старшыня ЗБВБ сп. Янка Міхалюк.

Сям'і нябожчыка — жонцы Ніне, дзецям Віктару, Алесю, Галіне і ўнукам ды сястры й братом у Маскве й Казахстане — найглыбейшыя спачуваньні.

Вечная памяць.

**Галоўная ўправа ЗБВБ**

## ВАЖНЫЯ КНІГІ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ КНІГАЗБОРАЎ

***Ignacy Dworczanin białoruski polityk i uczony/Ihnat Dwarczanin bielaruski palityk i wuczony. Wydawnictwa Uniwersytetu Warszawskiego, Warszawa, 1990. 101 st.***

Гэтая праца выйшла напрыканцы леташняга году, а аўтарамі ёсьць Аляксандар Баршчэўскі, Аляксандра Бэргман і Юры Тамашэўскі. Праца складаецца з трох разьдзелаў: разьдзел біяграфічны напісала Аляксандра Бэргман, разьдзел аб дзейнасьці Ігната Дварчаніна напісаны прафэсарам Юрыем Тамашэўскім, а прафэсар Аляксандар Баршчэўскі напісаў пра Дварчаніна, як літаратурнага крытыка.

Ува ўступе да кнігі прафэсар Тамашэўскі зазначае, што ёсьць вельмі мала народаў, якія мелі-б такі трагічны лёс, як народ беларускі. Асабліва цяжкія для беларусаў былі падзеі дваццатага стагодзьдзя. Лёс беларускіх дзеячоў дваццатага стагодзьдзя адлюстроўвае у значнай меры і цяжкасьці палітычнага разьвіцьця нацыі. Ігнат Дварчанін — адзін з тых сьветкаў цяжкое долі беларускага народу. У сваім артыкуле прафэсар Тамашэўскі разглядае адзін з цікавейшых і плённых пэрыядаў у жыцьці Ігната Дварчаніна, гэта пэрыяд яго навучаньня ў Празе ад лістапада 1921 году да чэрвеня 1926 году. Працуючы вельмі актыўна на ніве грамадзка-палітычнай, Ігнат Дварчанін, будучы студэнтам, шмат увагі аддаваў і дзейнасьці літаратурнай ды тады-ж абараніў на Праскім унівэрсытэце й доктарскую дысэртацыю аб Францішку Скарыну. Праца Дварчаніна зрабіла вялікі ўплыў на далейшае разьвіцьцё дасьледваньняў жыцьця й дзейнасьці беларускага першадрукара й вучонага мужа.

Аляксандра Бэргман, сучасьніца падзеяў тых часоў, калі жыў і працаваў Ігнат Дварчанін, бадай найпаўней да сёньняшняга дня, апісала жыцьцё і дзейнасьць Ігната Дварчаніна. Аўтар карысталася архіўнымі матар'яламі ды ўнесла ў ягоную біяграфію шмат новага.

Прафэсар Аляксандр Баршчэўскі у сваім разьдзеле кнігі пра Ігната Дварчаніна аналізуе ягоную літаратурную дзейнасьць ды адзначае, што Ігнат Дварчанін унёс шмат новых паглядаў на разьвіцьцё беларускае літаратуры ды быў першым, хто прааналізаваў значаньне літаратурнае дзейнасьці газэты «Наша Ніва». Дварчанін быў таксама першым, хто адзначыў, што літаратурная дзейнасьць «Нашай Нівы» становіць пачатак новай эпохі разьвіцьця беларускае літаратуры.

---

***І. С. Двачанін. Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве. Пераклад з чэшскай мовы Тамары Кароткай. Мінск, Навука і Тэхніка, 1991. 186 ст.***

Кніга гэтая — пераклад доктарскае дысэртацыі Ігната Дварчаніна, якую ён абараніў у Карлавым Унівэрсытэце ў Празе ў 1926 годзе. Праца ўпяршыню становіцца даступанай шырокаму колу дасьледнікаў: гісторыкам беларускае культуры, гісторыкам, лінгвістам ды наагул беларусазнаўцам. Прайшло панад шесьдзесят гадоў ад часу, калі Дварчанін абараняў дысэртацыю, аднак шмат зь ягоных аналізаў і паглядаў ня страцілі свае актуальнасьці й да цяперашняга часу. А бяручы пад увагу, што праца Ігната Дварчаніна зрабіла нявымяральны ўклад у разьвіцьцё скрыназнаўства, дык зьяўленьне гэтае кнігі — добры падарунак дасьледвальнікам ды адзнака пашаны Ігнату Дварчаніну. І ўсьлед за Дварчанінам, прынагодная працытуем урывак зь ягонага вершу «Брату-вучыцелю»:

Ня бойся, мой брат,
не загінуць зярняты,
Што ўкінеш ты вернай рукой,
Як дар яны зь неба там будуць
прыняты
Даўно ўгатаванай ральлёй.

З. К.

### Карэкта й выбачэньне

З тэхнічнага недагляду ў папярэднім нумары Беларуса была зробленая памылка. У зацемцы аб інтэрв'э сп. Адольфа Суботы, якое ён даў мясцовай амэрыканскай газэце, выпаў радок з інфармацыяй аб тым, што сп. Субота ёсьць таксама сябрам Арганізацыі Вэтэранаў і Рады БНР. Перапрашаем.

### ПАДЗЯКА

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп. сп.: Юрка Кіпель, А. Маркевіч, А. Міцкевіч, Ю. Весялкоўскі, М. Шведзюк, А. Наумовіч (праз Сурвілау), Я. Азарка, С. Карніловіч, В. Мельяновіч, М. Грэбэнь, У. Бакуновіч.

## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

**Андрусь Ануфрыеў з г. Горкі,** Беларусь. Ліст атрымалі й пераслалі Данчыку.

**Андрусь Кміт зь Менску.** Ліст перадалі ў БІНІМ. Кніжкі ужо высланыя. Газэта «Беларус» будзе высылацца.

**Аляксандар Дзіндзікаў з Бабруйску,** шукае радыё-аматараў суайчыньнікаў. Ягоны пазыўны UCASBU. Цікавіцца гэтаксама й філялэліяй. Пісаць да яго на адрас:
213827 Беларусь
Бабруйск, Магілеўская вобл.
аб. скрынка 5
Діндікаў Аляксандар

**Ігар Крумін з Рыгі.** Ліст атрымалі. Шчыра дзякуем за зацікаўленьне. Газэту «Беларус» будзем высылаць. Копію вашага ліста перадалі гэтаксама ў БІНІМ.

**Сяргей Краўцоў зь Менску.** Ваш цікавы і інфармацыйны ліст атрымалі. Нажаль мы нічога ня можам дапамагчы з эміграцыяй. Газэта гэтым не займаецца.

**Яўген Булава з Магілеву.** Ліст перадалі ў Беларускую Асацыяцыю Мастацтва і Умельства.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча*

| | |
|---|---|
| Б. і А. Даніловіч (заміж кветак на магілу сьв. пам. Вацлава Пануцэвіча) | ам. д. 50.00 |
| А. С-а | 50.00 |
| А. Васанскі | 30.00 |
| П. Алексы | 30.00 |
| Х. Барысавец | 25.00 |
| Т. Супрун | 25.00 |
| М. Кумэйша | 25.00 |
| Я. Азарка | 25.00 |
| В. Касьцюкевіч | 25.00 |
| Т. А. Бабіцкі | 25.00 |
| М. Грэбень | 20.00 |
| Р. Галяк | 20.00 |
| А. Семянчук | 10.00 |
| К. Стасевіч | 20.00 |
| Усяго | 380.00 |

Да нашых падпішчыкаў!
Кожны гэта добра знае
Што друкарня не чакае
Але й гэта трэба знаць —
Мы ня можам больш чакаць.

Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўнікам шчыры дзякуй!

**Адміністрацыя «Беларуса»**